БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

28 мая 1994 г.
Субота
№ 57(13774)
Кошт у розніцу 100 рублёў
Выдаецца з 1921 года

У НУМАРЫ:



*Малюе Віктар ДУБОВІК*

Не сумуй, мы заўжды з табой!

*Канікулы. Вясёлая пара. Ёсць магчымасць не толькі дапамагчы па гаспадарцы бацькам, але і вось гэтак бесклапотна паваляцца на лузе сярод дзьмухаўцоў, як гэтыя хлапчукі і дзяўчынкі. Зрэшты, на тое і вясна, каб адчуць прыгажосць зямлі: любавацца буйнем садоў, кустоў бэзу ці проста пазабаўляцца з лёгкімі, нібыта сонечныя зайчыкі, дзьмухаўцамі. Канікулы, канікулы — вясёлая пара.*

Фота Сяргея ГРЫЦА.



## Кур'ер "ЧЗ"

Нямецкі ўрад прапанаваў дзяржавам-партнёрам з Усходняй Еўропы выкарыстаць вопыт Германіі ў вырашэнні праблемы перакваліфікацыі. Пачала дзейнічаць такая праграма падтрымкі і на Беларусі. Статс-сакратар федэральнага міністэрства адукацыі і навукі Германіі доктар Фрытц Шаўман з віцэ-прэм'ерам Міхаілам Дземчуком і іншымі афіцыйнымі асобамі адкрылі ў Мінску рэспубліканскі інстытут прафесійнай адукацыі. У гэтым узорным цэнтры атрымліваюць кваліфікацыю выкладчыкі для навучання бізнесменаў у прамысловай, банкаўскай сферах і ў сферы рознічнага гандлю.

НА ЗДЫМКУ: пад час адкрыцця інстытута

Фота INTER NATIONES.

### Некаторыя вынікі першага этапу

Тройку лідэраў на Міншчыне склалі Старшыня Савета Міністраў Вячаслаў Кебіч (59 092 подпісы), лідэр камуністаў рэспублікі Васіль Новікаў (39 305) і кіраўнік Беларускага народнага фронта Зянон Пазьняк (23955). За імі ідуць Генадзь Карпенка, у якога засталося 17 579 подпісаў, Аляксандр Дубко — 14 110, Станіслаў Шушкевіч — 13 525, замыкае "цудоўную сямерку" Аляксандр Лукашэнка, у арсёнале якога на Міншчыне 10 522 галасы.

Найбольшую колькасць подпісаў сабраў на Магілёўшчыне сярод землякоў Аляксандр Лукашэнка. Яго падтрымалі 68 832 выбаршчыкі. За Вячаслава Кебіча паставілі свае подпісы 41 255 чалавек, за Васіля Новікава — 19 862. Зянону Пазьняку ўдалося заручыцца падтрымкай 11 442-х сваіх прыхільнікаў, а Станіславу Шушкевічу і Генадзю Карпенку не ўдалося дабрацца да 5-тысячнай адзнакі. У Аляксандра Дубко на Магілёўшчыне 10 995 прыхільнікаў.

БЕЛІНФАРМ.

### Краязнаўцы – пра вайну

*26 чэрвеня ў Горках Магілёўскай вобласці пачне сваю работу краязнаўчая канферэнцыя, прысвечаная 50-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.*

У канферэнцыі прымуць удзел і ветэраны 70-й стралковай дывізіі, якая вызваляла Горацкі раён.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

### "Берасцейскія карані"

*Гэту падзею чакалі. І яна адбылася — выйшаў з друку сацыяльна-эканамічны, гістарычна-краязнаўчы і літаратурна-мастацкі альманах "Берасцейскія карані".*

Ва ўступным слове да яго старшыня Брэсцкага аблвыканкама В.У.Бурскі адзначыў: "Ужо сама назва гаворыць за сябе — гэта карані нашай гістарычнай памяці, вытокі спадчыны, разуменне гісторыі зямлі, на якой жывём і працуем, смуткуем і радуемся".

Альманах "Берасцейскія карані" — першае такое выданне ў Брэсцкай вобласці. Тым не менш, яго змест, мастацкае афармленне заслугоўваюць самага добрага слова. І іх, у першую чаргу, хочацца выказаць выдаўцу — упраўленню інфармацыі Брэсцкага аблвыканкама, рэдакцыйнаму савету і рэдкалегіі альманаха, якія правялі вялікую арганізацыйную і творчую работу, каб кніжка адразу прыцягнула да сябе ўвагу чытачоў.

Амаль усе аўтары альманаха — людзі, вядомыя не толькі ў нашай вобласці, але і на ўсёй Беларусі. Гэта старшыня вядомага ў рэспубліцы калектыўнага сельскагаспадарчага прадпрыемства Аляксей Скакун і камянецкая пісьменніца Святлана Курылёва, празаік Сцяпан Крываль і паэт Алесь Каско, які, дарэчы, з'яўляецца галоўным рэдактарам гэтага выдання, фотамайстар Уладзімір Якавенка і пісьменнік, публіцыст Уладзімір Калеснік...

Шкада толькі, што тыраж кніжкі вельмі малы — тры тысячы экземпляраў. Думаецца, што другі выпуск, які пачынае рыхтаваць да друку ўпраўленне інфармацыі аблвыканкама, будзе больш масавым.

Анатоль РАЗАНОВІЧ.

### З журбою – пра Журбу

*На Касавэраўскім могільніку ў Полацку пахаваны вядомы пісьменнік, адзін з зачынальнікаў новай беларускай літаратуры Янка Журба. Сёлета на яго магілку прыйшлі пісьменнікі, грамадскія дзеячы горада.*

Абрад памінання падрыхтаваў і правёў цэнтр нацыянальнай культуры. Успамінамі пра Янку Журбу падзяліліся пісьменнікі, паэты.

### Ці тое яшчэ будзе...

*У студзені — сакавіку на Віцебшчыне зарэгістравана 2366 шлюбаў, што на 246 менш, чым у першым квартале мінулага года.*

Скасавана шлюбаў — 1925, гэта на 44 больш, чым летась. Перавышэнне колькасці памёршых над колькасцю народжаных склала сёлета 1824 супраць 1649 за той жа перыяд мінулага года.

Уладзімір МІХНО.

### Наваселле з божага блаславення

*Напэўна, няшмат знойдзецца ў Мінску шматпавярховак, чые жыльцы былі б добра знаёмыя паміж сабой. Тым больш не ўсе на сваё наваселле атрымліваюць блаславенне святара.*

Тыя, хто цяпер будзе жыць у доме № 15 па вуліцы Гарадзецкай, які належыць МЖК "Уручча", тры гады чакалі ключы ад сваіх новых кватэр. Ды й не проста чакалі — самі будавалі тую шматпавярхоўку, што цяпер павінна зрабіцца самым шчаслівым домам ва ўсім Уруччы. Таму што свята агульнага наваселля адзначалася "па ўсіх правілах": напачатку айцец Ігар, святар храма Усіх Гаротных Радасцей, асвяціў новы будынак і прачытаў малітву на шчаслівае жыццё ў гэтым доме ўсіх яго будучых жыльцоў. А потым адбываліся "Улазіны" — старажытны беларускі абрад наваселля, адрадзіць які дапамог фальклорны тэатр "Дзіва".

Ірына ЗАВАДСКАЯ.

### "Зоркі" на "Славянскім базары"

*Не пакіне Алу Пугачову яе новы выбраннік Філіп Кіркораў у час гастроляў славутай артысткі на трэцім міжнародным фестывалі "Славянскі базар", які пройдзе ў Віцебску з 18 па 26 ліпеня.*

Вядомае музычнае шоу збярэ на гэты раз рэкордную колькасць удзельнікаў, сярод якіх будуць Тамара Гвердцытэлі (Грузія), Дзідзье Маруані (Францыя), Ларыса Доліна (Расія) і многія іншыя зоркі блізкага і далёкага замежжа.

"Гваздом" праграмы будзе, несумненна, выдатны французскі музыкант і кампазітар Мішэль Легран, які даў згоду на ўдзел у фестывалі. Выступленні спевакоў прагучаць у суправаджэнні дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга і Расійскага прэзідэнцкага аркестра пад кіраўніцтвам Паўла Аўсяннікава.

БЕЛІНФАРМ.

**Курсы валют на 27 мая:**

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 20600 | 21300 | 12500 | 12940 |
| "Пошук" | — | — | — | — |
| "Прыор" | 20700 | 21500 | 12600 | 13100 |

## СЁННЯ — ДЗЕНЬ ПАГРАНІЧНІКА

### ПАВАЖАНЫЯ ВЕТЭРАНЫ, ВАЕННАСЛУЖАЧЫЯ, РАБОЧЫЯ І СЛУЖАЧЫЯ ПАГРАНІЧНЫХ ВОЙСКАЎ!

Ад імя ўрада Рэспублікі Беларусь і сябе асабіста віншую вас з трыдцыцыйным святам – Днём пагранічніка!

Гісторыя пагранічных войскаў – гэта сведчанне мужнасці і гераізму воінаў-пагранічнікаў. У памяці народа назаўсёды захаваюцца іх подзвігі ў час Вялікай Айчыннай вайны, шматлікія прыклады самаадданасці і пільнасці ў гады мірнага стварэння. Воіны граніцы заўсёды адрозніваліся высокім патрыятызмам, пачуццём адказнасці, уменнем прафесійна і граматна выконваць свой абавязак, цеснымі сувязямі з мясцовым насельніцтвам.

Змяняюцца пакаленні пагранічнікаў, але баявыя традыцыі захоўваюцца і прымнажаюцца; вопыт ветэранаў, іх веды і любоў да Радзімы перадаюцца з пакалення ў пакаленне. І сёння вартавыя нашых рубяжоў дастойна выконваюць свой воінскі абавязак, падтрымліваюць высокую боегатоўнасць, удасканальваюць прафесійнае майстэрства.

Жадаем ветэранам, усяму асабоваму саставу пагранічных войскаў, членам сем'яў моцнага здароўя, шчасця, дабрабыту і далейшых поспехаў у вырашэнні задач па ахове дзяржаўнай граніцы Рэспублікі Беларусь.

З павагай
В.Ф.КЕБІЧ,
Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

## АКТУАЛЬНАЕ ІНТЭРВ'Ю

# Ці доўга вёсцы чакаць даўгоў?

*Хлебаробскія клопаты. Яшчэ зусім нядаўна ўсе думкі механізатараў і паляводаў, кожнага вяскоўца былі скіраваны на тое, каб пасеяць у тэрмін яравыя збожжавыя, бульбу, кармавыя культуры. А ўжо на парозе сенаўборка, корманарыхтоўка. Бадай, ці варта згадваць народную мудрасць: ураджай той, што ў засеках. Аднак рэальная сітуацыя ў сельскагаспадарчых рэгіёнах — калгасах, саўгасах, фермерскіх гаспадарках — прама трэба сказаць, складаная. Акрамя таго, што людзі, якія пастаўляюць на гандлёвыя прылаўкі малако, хлеб, агародніну, атрымліваюць нізкую заработную плату, яўна не суразмерную з затрачанай працай, пагоршылася матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне машынна-трактарнага парка. Калгасныя, саўгасныя, фермерскія касы фактычна пустыя: няма грошай нават для выплаты зарплаты, не кажучы ўжо пра набыццё ўборачнай тэхнікі, трактароў, камбайнаў, дызельнага і карбюратарнага паліва, гербіцыдаў, мінеральнай падкормкі. Адным словам, пакуль работнікі камерцыйных банкаў, прадпрымальнікі, гандляры-перакупшчыкі шыкоўна раз'язджаюць у інамарках, праядаюць і прапіваюць лёгка заробленыя мільёны, працаўнікі вёскі, мабыць, бацькі некаторых з іх, ледзьве зводзяць канцы з канцамі. Але не пра сацыяльнае расслаенне грамадства поидзе ніжэй гутарка, а менавіта пра праблемы, якія хвалююць на дадзеным этапе вёску.*

*З мэтай ацэнкі сітуацыі наш карэспандэнт звярнуўся да намесніка міністра сельскай гаспадаркі і харчавання М.К.ЕРМАКОВА.*

**— Мікалай Канстанцінавіч, відаць, нельга рабіць глабальныя вывады аб стане сельскай гаспадаркі, гледзячы толькі на гандлёвыя рады. Што сёння хвалюе працаўнікоў вёскі?**

— Фінансавае становішча. На першы погляд, тое-сёе на паліцах магазінаў ёсць. У гэтым заслуга людзей, якія нямала зрабілі дзеля таго, каб у гараджаніна на стале быў і хлеб, і да яго. Але гэта сёння. А што будзе заўтра? Вось-вось у калгасах і саўгасах распачнуцца "зялёнае жніво", сенакос. Для паспяховага правядзення гэтай важнай сельскагаспадарчай кампаніі неабходна мець грошы, і нямала — 2 трыльёны 100 мільярдаў рублёў. З іх на набыццё гаруча-змазачных матэрыялаў пойдзе 1 трыльён 976 мільярдаў, на запчасткі да сенаўборачнай тэхнікі — 8 мільярдаў, кормаўборачнай — 12 мільярдаў рублёў. А на сёння засталося ў калгасах і саўгасах 133 тысячы тон дызельнага і 41,6 тысячы тон карбюратарнага паліва, расход якога на канец мая складзе адпаведна 125-130 тысяч тон, і 60 тысяч тон бензіну. Адным словам, ліміт будзе амаль вычарпаны.

**— А гэта значыць, што тыя, хто карміў на працягу года рэспубліку, апынуцца ў ролі голых «каралёў», а нам, спажыўцам, давядзецца пакласці зубы на паліцу?**

— Менавіта так, я не перабольшваю. Наша эканоміка заўсёды была неспадзяванай і парадаксальнай. І гэта не проста словы. Несвоечасовыя разлікі з гаспадаркамі за прададзеную прадукцыю, скачкападобны рост цэнаў на паліва нічога добрага, акрамя гаспадарчага хаосу,

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

## ВЫБАРЧЫ МАРАФОН

# "Зараз не час даваць абяцанні"

☐ Вольга ШАЎКО, "ЧЗ"

*У чацвер народны дэпутат Аляксандр ЛУКАШЭНКА сустрэўся з прадстаўнікамі жыллёва-будаўнічых кааператываў Савецкага раёна г.Мінска.*

Сустрэча была арганізавана па ініцыятыве Саюза ЖБК г.Мінска. Як падкрэслівалася на ёй, гэта першы народны дэпутат, што згадзіўся выслухаць праблемы грамадзян гэтай катэгорыі. Дагэтуль спробы звярнуцца да 6 іншых дэпутатаў, у тым ліку і абраных ад тэрыторыі, дзе пражываюць уласнікі кааператыўных кватэр, заставаліся безвыніковымі.

Старшыня Саюза ЖБК Фёдар Кацапаў заўважыў: "Мы запрасілі Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнку таму, што ведаем яго як сумленнага чалавека і спадзяёмся, што ён дапаможа нам у нашых бедах".

Бед у жыхароў кааператыўнага жытла сёння сапраўды хапае. Яны апынуліся ў больш горшым становішчы, чым тыя, хто пражывае ў дзяржаўных кватэрах. За кааператыў гаспадары ўжо заплацілі двойчы. Першы раз з уласнай кішэні, другі — у выглядзе падаткаў. Бяруць з іх падаткі на зямлю, якой яны не маюць права распараджацца. Недзе ў нетрах чыноўніцкага апарату зніклі грошы, што члены ЖБК сабралі на рамонт. Ідзе бессаромны мафіёзны гандаль кааператыўнымі кватэрамі.

Што магла прынесці сустрэча з дэпутатам, чым дапамагчы? Як адзначыў сам Аляксандр Рыгоравіч, абяцанні даваць не час. Ён прыйшоў да гэтых людзей, каб адчуць праблему, якая з'яўляецца толькі часткай прыватызацыйнага працэсу, што так агідна развіваецца на Беларусі. Заканадаўчая праца парламентарыяў у гэтым напрамку, акрамя шкоды, людзям нічога не можа прынесці. Механізм прыватызацыі ажыццяўляецца па такіх законах, што рэшткі дзяржаўнай уласнасці напрасткі трапляюць у рукі ўладу маючых, ідзе дзікая "прыхватызацыя". Менавіта гэтыя факты ўскрыла антыкарупцыйная камісія Вярхоўнага Савета, якую ўзначальваў А.Лукашэнка.

"Таму, — падкрэсліў ён, — мы са сваёй камандай нічога зараз не абяцаем, акрамя сумленнай і прыстойнай палітыкі. Можа, мы не станем жыць багацей, але ўсе разам. І на плячах народа ў рай не маем намеру ўехаць. Мы прапануем вам выбар".

На сустрэчы народнаму дэпутату былі зададзены пытанні, што тычыліся розных аспектаў яго асабістай дзейнасці, надзённых праблем нашага грамадства. Прывядзём некаторыя дыялогі, якія, як думаецца, даюць уяўленні аб пазіцыі А.Лукашэнкі, яго адносінах да з'яў, што адбываюцца навокал.

**— Якія галоўныя аспекты Вашай праграмы?**

— Захаваць дзяржаўную ўласнасць, створаную народам, каб яна абараняла народ.

**— Якая самая галоўная прычына падзення эканомікі?**

— Існаванне карупцыі, мафіі. У нас ёсць час нанесці ўдар па іх, але не хапае ўлады.

**— Вядома, чым скончылася барацьба Гдляна—Іванова з карупцыяй, калі яны выйшлі на вышэйшыя эшалоны ўлады. Мафія бессмяротная...**

— Мне выключыць са сваёй праграмы гэты аспект?

**— Не!**

**— Як Вы адносіцеся да аб'яднання грашовых сістэм Беларусі і Расіі?**

— Я — за. І ў мяне свой погляд на гэта. Я прайду шлях перагавораў з Расіяй наконт аб'яднання грашовых сістэм да канца.

**— Ваша стаўленне да Саветаў як да формы народаўладдзя?**

— Я прыхільнік прафесійнай работы парламента, але дапускаю і сумяшчальніцтва.

**— Што Вы думаеце аб кампартыі?**

— Я не саромеюся таго, што знаходзіўся ў гэтай партыі. Свой партыйны білет не спаліў. Аднак у сённяшнюю ПКБ не іду, бо не веру людзям, якія стаяць на чале яе. Стварэнне сапраўднай кампартыі ў Беларусі яшчэ наперадзе.

**— Да якой партыі Вы належыце?**

— Ні да якой. Лукашэнка не ангажыраваны ніякай палітычнай партыяй.

**— Як абмежаваць прадастаўленне зямлі пад будаўніцтва катэджаў?**

— Калі мне прыйдзецца вырашаць такую праблему, я не буду абмяжоўваць будаўніцтва. Я вярну крадзенае сапраўдным гаспадарам. А гэту зямлю атрымаюць бяздомныя. Чалавеку, які не мае жылля, трэба дапамагчы пабудаваць дом.

**— Якія банкі павінны быць: дзяржаўныя ці камерцыйныя?**

— Я прыхільнік таго, каб была канкурэнцыя банкаў. Іншая справа, якую палітыку яны будуць весці і якія законы мы ім дадзім.

**— Як Вы ставіцеся да Бога?**

— Станоўча. Людзі маюць права на свабоду веравызнання. Дзяржава павінна паважаць іх погляды і гарантаваць захаванне іх.

**— Ці патрэбны Вам і вашай камандзе памочнікі па выбарчай кампаніі?**

— Вельмі патрэбны.

## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА — ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"




*Дзяжурныя па выпуску перакладчыкі Віталь КАПАЧЭЛЬ, Андрэй СІДАРАЎ, рэдактар Павел СІМАНАЎ.*

### "Суперчэннэл"

#### НОВЫ ФІЛЬМ О.СТОЎНА

*У сераду сусветна вядомы рэжысёр Олівер Стоўн сустрэўся з прэзідэнтам Аргенціны Карласам Менемам для атрымання дазволу на правядзенне унутры прэзідэнцкага палаца здымак свайго новага фільма.*

Чарговая стужка Стоўна раскажа пра жонку былога прэзідэнта краіны генерала Перона. Гэтая жанчына карысталася надзвычайнай павагай у аргенцінскіх беднякоў.

#### ЗА КРАТАМІ – "ЛЕПШЫ ПАЛІЦЭЙСКІ"

*Ветэран амерыканскай паліцыі з 10-гадовым стажам арыштаваны па абвінавачванню ў кантрабандзе наркотыкаў, растраце і раскрыццю тайны.*

Цяперашняму арыштанту раней было прысвоена званне "Лепшы афіцэр паліцыі 1993 года"...

### "Еўраньюс"

#### МАФІЯ ПАГРАЖАЕ ЎЛАДАМ

*Выступленне перад журналістамі "хроснага бацькі" італьянскай мафіі па мянушцы "Тато", арыштаванага паліцыяй, пасеяла трывогу сярод афіцыйных асоб краіны. Яны расцанілі яго як адкрытую пагрозу расправіцца з вышэйшымі паліцэйскімі чынамі.*

Асаблівую нянавісць "Тато" выклікалі Лучано Віялантэ, былы старшыня антымафіёзнай камісіі італьянскага парламента, і Джан Карла Газелі, пракурор Палерма.

#### КАМУ ПАТРЭБНЫ ПАЛЬЧАТКІ МАЙКЛА ДЖЭКСАНА?

*Акуляры лідэра групы "Бітлз" Джона Ленана былі куплены ў чацвер на аўкцыёне ў Лондане ўладальнікамі кафэ "Хард Рок" за 5775 даляраў. Сукенка, у якой выступала Мадонна, "пацягнула" на 18 000 даляраў, а кашуля саліста групы "U2" — на 6870 даляраў.*

Пяльчаткі Майкла Джэксана не былі куплены нават за пачатковую цану.

*(Працяг на 3-й стар.).*



**Бізнес-клас**

Вядучая рубрыкі Вера ПАЛЯКОВА
Тэл. 68-28-52

## Каб не "плакалі" грошы

Як вядома, у перыяд "першапачатковага накаплення капіталу", мутныя хвалі псеўдарыначных адносін часта ўздымаюць на паверхню не зусім сумленных шукальнікаў падзарабіць. Ад гэтага пакутуюць грамадзяне не толькі краін СНД, але і былых сяброў па сацыялістычным лагеры. Напрыклад, у Варшаве сёння дзейнічаюць 2 тысячы будаўніча-рамонтных фірмаў, але толькі 14 з іх атрымалі рэкамендацыі Польскага Саюза будаўнічых інжынераў і тэхнікаў пасля грунтоўнай праверкі. Таму рамонт кватэры, або пабудова дома ў польскай сталіцы звязана з пэўнай рызыкай трапіць на несаліднага партнёра. Аднак, у адрозненне ад нас, варшавяне маюць магчымасць звярнуцца са скаргай у Саюз і кволую, але надзею вярнуць свае грошы.

## Тавар – зброя

З 1 студзеня бягучага года ў Рэспубліцы Беларусь пачала дзейнічаць пастанова Савета Міністраў аб парадку атрымання дазволу на перавоз праз межы нашай рэспублікі разнастайнай зброі і рэчываў, што нясуць небяспеку не толькі здароўю, але і жыццю людзей. Такім чынам беларускія бізнесмены атрымалі ў сваё распараджэнне сапраўдную цаліну, з якой збяруць неблагі ўраджай.

Аднак, для кантролю за гандлем падобным таварам існуюць і свае "рагаткі". Каб увезці ў краіну, або правезці транзітам праз яе тэрыторыю вайсковую, паляўнічую, пнеўматычную або халодную зброю, а таксама прыстасаванні адпаведнага прызначэння, неабходна мець дазвол МУС тых краін, на чыю тэрыторыю вязуць небяспечны тавар. Зразумела, дазвол Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі неабходны, каб правезці зброю праз нашу краіну.

Штогод, нягледзячы на "пераходны перыяд", знаходзяцца аматары з дальняга замежжа папаляваць з уласнай стрэльбай у беларускіх лясах. У гэтым выпадку яны павінны прад'явіць працаўнікам мытні дазвол, пагоджаны з Камітэтам па знешнеэканамічных сувязях, а таксама Таварыствам паляўнічых і рыбаловаў Беларусі.

## Без уліку чаявых

Эксперты паважанага часопіса "Дело", не маючы афіцыйнай статыстыкі, тым не менш атрымалі даныя, не пазбаўленыя цікаўнасці і, да таго ж, не патрабуючыя ніякіх каментарыяў.

Зарплата за тыдзень у далярах ЗША:

| | У ЗША | У Беларусі |
|---|---|---|
| Юрыст | 1008 | 10 |
| Урач | 984 | 4,5 |
| Інжынер | 836 | 4 |
| Выкладчык ВНУ | 756 | 4,5 |
| Галоўны бухгалтар | 743 | 10 |
| Эканаміст | 732 | 6 |
| Хімік | 687 | 4 |
| Праграміст ЭВМ | 662 | 5 |
| Медсястра | 634 | 3,5 |
| Архітэктар | 623 | 6 |
| Настаўнік | 600 | 4 |
| Журналіст | 537 | 5 |
| Таксіст | 339 | 4 |
| Швачка | 326 | 4 |
| Прыбіральшчыца | 292 | 1,4 |
| Аператар у банку | 281 | 6 |
| Цырульнік | 263 | 4,5 |
| Прадавец | 246 | 5 |
| Касір | 218 | 5 |
| Афіцыянт | 218 | 5 |

"ПАС" — палітыка-аналітычная служба

# Хто зловіць двух зайцоў?

□ Лілія ГРЫНЯВЕЦКАЯ, "ЧЗ"

*Пакуль розныя палітычныя сілы краіны з захапленнем прадчуваюць будучую перамогу сваіх стаўленікаў на прэзідэнцкіх выбарах, з эканомікай робіцца нашта нядобрае.*

У кожнай з'явы ёсць межы, калі пра яе яшчэ можна і памаўчаць. Мінулы тыдзень парушыў усе бар'еры на шляху лавінападобнай інфляцыі, а мінулы месяц "падарыў" грамадству лічбу, якой яшчэ не ведала ні адна з краін СНД, таксама не пазбаўленых вострых эканамічных крызісаў, — 43 працэнты інфляцыі. Ганарыцца няма чым, аднак відавочны крызіс адбываецца на фоне магутнай перадвыбарчай кампаніі, што дае дадатковыя падставы для аналізу і разважанняў.

Няма сумнення, што ў апошні месяц палітычны пульс рэспублікі б'ецца ліхаманкава. Першым пытаннем было, хто, якія асобы прапануюць сябе ў якасці прэтэндэнтаў у кандыдаты. Вызначыліся. Другое пытанне, далёка не апошняе, каго з прэтэндэнтаў зарэгіструюць у якасці кандыдатаў. Некалькі спадароў з тых, чые імёны на слыху, працягнуць выбарчы марафон, і пачнецца самы гарачы месяц палітычнага жыцця краіны, сапраўдная агітацыйная кампанія ў сродках масавай інфармацыі, якія ўжо прадчуваюць напружаную працу і недахоп месца ў эфіры і на газетных старонках. Нарэшце, адбудуцца самі выбары, вынік якіх адны хацелі б бачыць нечаканым і нават рэвалюцыйным, другія ж добра папрацавалі, каб спадзявацца, што выбары не выкінуць нечаканы фінт у выглядзе новай зоркі на палітычным небасхіле. У чэрвені палітычны спектакль дойдзе да кульмінацыі, і падзеі будуць развівацца больш павольна. Тое ж хацелася б сказаць пра эканоміку. Але хроніка апошніх яе паводзін змушае хвалявацца.

Калі ў магазіне выстаўляюць новую цану з павялічанай лічбай, кажуць: даляр расце. Каб гэта было так. Усё намнога горш — рубель падае. Пакуль палітыкаў б'е ліхаманка выбарчых калізій, пасапраўднаму затрасло "зайца". 14 мая курс беларускага разліковага білета да даляра — 16 500. 19 мая — 17 750. 21 мая — 18 750. 23 мая — 20 400. Так і сканаць можна, не дачакаўшыся святочнага феерверку ў гонар першага прэзідэнта Беларусі.

Мараль байкі не ў тым, што палітыкі (яны ж па сумяшчальніцтву — эканамісты) заняліся палітыкай і забыліся на эканоміку. Сутнасць у тым, што вось сёння, цяпер, у гэты момант, а не пасля выбараў ці яшчэ калі-небудзь патрабуюцца тэрміновыя, надзвычай тэрміновыя захады, каб вyратавацца. І рабіць гэта трэба, нягледзячы на ўвесь запал перадвыбарчай гонкі, недахоп часу і іншыя акалічнасці. Вялікае пытанне, ці ўдасца гэта тым, ад каго залежыць.

На свае вочы бачым, як цесна палітыка звязана з эканомікай. Напярэдадні выбараў раздаюцца абяцанні: замарозіць цэны і павялічваць толькі заработную плату. Пакідаючы ўбаку размовы пра папулізм, заўважым: якой страшнай інфляцыяй вернуцца прыгаданыя захады да тых, для каго, па сутнасці, захады прымаюцца: рабочых, служачых, пенсіянераў, усіх, хто складае большасць насельніцтва з нарміраваным заробкам. Не сакрэт, што камерцыйныя колы зробяць камерцыю нават і на інфляцыі, апошняя ж перш за ўсё ўдарыць па таму самаму сярэдняму класу, які ў нас, насуперак усім класічным канонам, прадстаўлены 60 працэнтамі насельніцтва, што знаходзяцца за межамі беднасці. Імгненнасць мэт папярэднічае непрадказальным вынікам.

Мы занадта імкліва падаем у эканамічную бездань. Урад гэта ведае лепш за шэраговага грамадзяніна і, паставіўшы сябе ў становішча, калі зрабіць нічога нельга, робіць максімум таго, на што здольны (трэба аддаць яму належнае): хапаецца за грашовы саюз з Расіяй, як за саломінку. Плюсаў ад аб'яднання чакаюць многія, але відавочны мінус — пасіўнасць занятага становішча: усё залежыць ад расійскага боку. Час, між тым, не чакае і не церпіць.



*Таццяна ВІКТАРАВА займаецца на другім курсе Слонімскага СПТВ–189. Пасля яго заканчэння яна атрымае прафесію повара, а таксама зможа працаваць і лабарантам хіміка–бактэрыялагічнага аналізу. Дарэчы, паступіць сюды летась было не так проста. Конкурсны адбор — амаль як у інстытуце. На адно месца прэтэндавалі тры чалавекі.*

*З наступнага навучальнага года на базе груп, у якіх займаюцца дзяўчаты, тут будуць рыхтаваць гаспадынь сядзібы. Акрамя асваення цяперашніх спецыяльнасцей выпускніцы атрымаюць веды, якія спатрэбяцца і швачцы, і агародніку, і жывёлаводу.*

**Фота В.ВАЛАДАШЧУКА.**

ПАШТОВАЯ СКРЫНКА



## Мяса – прадукт шкодны... для бедных

Так вырашыў Дзяржкамітэт Рэспублікі Беларусь па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва, прапанаваўшы набор прадуктаў харчавання на ўзроўні пражытачнага мінімуму для бедных слаёў насельніцтва. А калі ўлічыць, што да гэтай катэгорыі адносіцца зараз 90 працэнтаў насельніцтва, то гэтыя рэкамендацыі тычацца амаль кожнага з нас.

Урадавыя чыноўнікі лічаць, што кожны беларус павінен з'ядаць за год не больш як 46,4 кілаграма мяса, у тым ліку 18,3 кілаграма ялавічыны, 6,2 кілаграма свініны, 1,8 кілаграма субпрадуктаў, 14,6 кілаграма птушкі, 1,8 кілаграма сала і 3,7 кілаграма каўбасных вырабаў. Паводле задумы распрацоўшчыкаў, менавіта такой колькасці мяса, разам з іншымі рэкамендаванымі і ўзважанымі прадуктамі харчавання, павінна хапіць сярэднестатыстычнаму беларусу, каб на працягу года падтрымліваць здароўе, аднавіць фізічныя сілы пасля работы.

Як "лічылі" мяса раней? Гадоў пятнаццаць—дваццаць назад савецкая навука аб харчаванні гаварыла, што для паўнацэннага харчавання будаўніку камунізму неабходна 78 кілаграмаў мяса ў год. Такая колькасць стала мэтай, але, падлічыўшы магчымасці аграрнага сектара больш цвяроза, норму істотна знізілі. У Харчовую праграму, прынятую ў 1982 годзе, быў закладзены ўжо іншы паказчык — 70 кілаграмаў.

Далей аказалася, што і гэты рубеж нерэальны, калі нават далучыць імпарт. Каб неяк дасягнуць патрэбнай лічбы, у паказчык "мяса" ўключалі субпрадукты першай і другой катэгорыі, сала. Гэта, дарэчы, робіцца і зараз. Тады з вялікай цяжкасцю выйшлі на 66—67 кілаграмаў мяса на душу насельніцтва ў год.

А потым усё пакацілася пад ухіл. Паводле статыстычных даных, за апошнія два гады сярэдняе ўжыванне мяса ў Рэспубліцы Беларусь знізілася амаль на трэць. Дзяржкампрацы рэкамендуе ўжыванне 46,4 кілаграма мяса ў год на душу насельніцтва. Але зараз і гэта норма стала хутка зніжацца.

Дзяржава не можа забяспечыць выкананне сваёй жа рэкамендацыі. Тая методыка зыходзіць ад мінімальнага сутачнага ўжывання ў 2500 калорый. Недастатковая каларыйнасць наганяецца павышанай нормай хлеба і нашым традыцыйным прадуктам — бульбай.

Чалавек здольны звесці да мінімуму свае патрэбнасці. Гэта яго асабістая справа. Але асабістая справа кожнага рана ці позна дарастае да маштабаў грамадскіх. Ёсць аддаленыя вынікі, якія немагчыма пралічыць сёння.

Самае крыўднае тое, што тыя чыноўнікі, якія сёння рэгулююць даходы насельніцтва, тэарэтычна абгрунтоўваюць, як харчавацца беларусам, не будуць адказваць за негатыўныя вынікі. Пэўны або пражытачны мінімум выглядае з прэтэнзіяй на гуманнасць: "Мы забяспечваем даход, ніжэй якога чалавек не павінен мець", хоць на самай справе больш сумленна было б прызнацца:"Мы далі даход, больш за які проста не можам плаціць".

**Вячаслаў ІШЧАНКА.**



*Музычная школа, што ў вёсцы Чэрні. Брэсцкага раёна, адна з лепшых. Каля ста дзяцей з навакольных вёсак авалодваюць тут азамі мастацтва. Акрамя класічнага фартэпіяна, яны асвойваюць баян, скрыпку, гітару, цымбалы. Вучні школы — нязменныя ўдзельнікі ўсіх конкурсаў і канцэртаў самадзейнага мастацтва, якія праводзяцца ў раёне.*

**НА ЗДЫМКУ: амаль усе выкладчыкі школы — у мінулым выпускнікі Брэсцкага музычнага вучылішча. У іх ліку і Наталля НІКАЛАЮК.**

**Фота Эдуарда КАБЯКА, БЕЛІНФАРМ.**

СПАДЧЫНА

# Крыж над горадам

На пагорку, недалёка ад ракі Свіслач, у Верхнім горадзе сталіцы стаіць касцёл. Ён быў збудаваны ў стылі барока з дзвюма вежамі і гадзіннікам на адной з іх. Зараз няма ні манастыра, ні вежы з гадзіннікам, ды й пазнаць у Доме Фізкультуры былы буйнейшы касцёл у Менску вельмі цяжка. Мала хто здагадваецца, што сціснуты з абодвух бакоў будынак быў калісьці гонарам менчукоў.

Асвятленне душы нёс гэты ахоўнік хрысціянства, замяняў бездань цемры на яскравыя горы не адно стагоддзе. Святым крыжом баслаўляў на добрыя ўчынкі, бараніў ад ворагаў. Стаяў нават пасля фашысцкай навалы. Але не вытрымаў аднаго: абыякавасці ўласнага народа. Прамільгнуў перад вачыма, як знічка на чорным небе. Развітаўся з рэшткамі веруючых, якім засталася цяжкая доля назіраць за збядненнем людзей, бязбожніцтвам.

...Паўстагоддзя мінула. Чорныя сілы пакрыху аслабілі сваю ўладу і схаваліся ў паўцемры, але не так добра, каб можна было забыцца аб іх існаванні. А людзі тым часам пачалі мроіць аб свеце, у якім не будзе міжнацыянальных спрэчак, крывавых войнаў, а застанецца тое, што прымусіць людзей звярнуцца да дабра, кахання, узаемных адносін, што з'яднае ўсіх веруючых. Гэта так натуральна. Амаль кожны чалавек думае такім чынам, але паглядзіце, што творыцца ў свеце, колькі войнаў трывае зямля.

Ужо з'явіліся людзі, якія здолелі ажывіць знішчанае. Марыінскі кафедральны сабор існуе, зноў робіцца ўпрыгожваннем горада. Дарэчы, ёсць надзея, што знешнія змены адбудуцца ў хуткім часе. Вельмі цяжка за кароткі час аднавіць, вярнуць ці нават зрабіць на іншы лад тое, што знішчалася стагоддзямі. А знішчаліся не толькі будынкі, але і больш каштоўныя рэчы — розум і душа. Трэба не страціць розум і ачысціць душу, інакш кажучы, падтрымаць той агеньчык, што ўспыхнуў у сэрцах веруючых, і ён ператворыцца ў полымя любві, ды і заззяе над вечаровай сталіцай вялікі крыж, як сімвал вечных духоўных каштоўнасцей.

**Галіна САРАЙКІНА.**

МОЛАДЗЬ І ЧАС

# Мой родны штат...

□ Ірына ЗАВАДСКАЯ, "ЧЗ"

*Гадоў дзесяць таму пра такое яшчэ не адважваліся марыць. Дакладней, марылі ўсе, але вельмі ўжо нерэальнымі былі тыя жаданні. У адрозненне ад дарослых, савецкія школьнікі даўным–даўно здагадваліся, што амерыканскія падлеткі "такія ж, як і мы". Але пераканацца ў гэтым на ўласныя вочы маглі хіба што дзеці "здраднікаў Радзімы". І ўпершыню пра тое абвясціла не савецкая, а амерыканская школьніца, што рызыкнула даслаць пісьмо самаму галоўнаму ў нашай "непарушнай дзяржаве".*

*Сёння правесці ў Амерыцы цэлы год — працей простага для любога вучня любой школы былога Саюза. Важна толькі на належным узроўні валодаць англійскай мовай.*

Маладзёжныя абмены — навінка толькі для нас, што доўгі час адгароджваліся ад усяго свету так званай "жалезнай заслонай". Наогул жа яны існуюць ужо больш за 50 гадоў. І ўзніклі з даволі натуральнай ідэі сяброўскага суіснавання розных краін. Так бы мовіць, на "неафіцыйным узроўні". Бо, як вядома, калі дзелавыя партнёры яшчэ і сябруюць, сувязі паміж імі ўзмацняюцца ў сотні разоў. А сяброўскія адносіны паміж незалежнымі краінамі — найлепшая гарантыя доўгатэрміновага здароўя ўсёй цывілізацыі. Вось чаму гэты маладзёжны рух набыў такую папулярнасць ва ўсім свеце.

Сёлета беларускія школьнікі ўжо ў другі раз адправяцца ў Амерыку, каб на працягу года жыць так, як жывуць сучасныя амерыканскія падлеткі: вучыцца не ў нейкай там спецыяльнай, а ў звычайнай амерыканскай школе, удзельнічаць у школьных спартыўных спаборніцтвах, наведваць мясцовыя дыскатэкі... На цэлы год яны зробяцца членамі амерыканскіх сем'яў, у якіх будуць жыць. Дарэчы, менавіта ідэя пражывання ў сем'ях забяспечыла такі поспех маладзёжным абменам. Жадаючых прыняць да сябе такога "часовага" сына ці дачку ў Амерыцы вельмі шмат, прычым, выключна з-за "культурнай цікаўнасці", ніякай матэрыяльнай кампенсацыі тут не прадугледжваецца. Але ўсё роўна многія амерыканцы імкнуцца прапанаваць нашым падлеткам найлепшыя ўмовы для пражывання, бо вельмі цікавяцца чужой культурай, спосабам жыцця, а такія сяброўскія кантакты — цудоўны сродак для вывучэння падобных рэчаў. Патрабаванні для "другіх" мам і тат вельмі строгія, для іх нават праводзіцца своеасаблівы конкурс, так што сапраўдныя бацькі могуць быць цалкам спакойныя. Тым больш, што акрамя выдатных жыллёвых умоў школьнікі забяспечваюцца і пэўнай стыпендыяй, якая прадугледжвае літаральна ўсё, акрамя хіба што выдаткаў на падарункі і тэлефонныя размовы з роднымі.

Стыпендыі прапаноўваюцца па спецыяльнай праграме "Акта ў падтрымку свабоды", што быў зацверджаны два гады таму Кангрэсам ЗША якраз для наладжвання кантактаў паміж Амерыкай і новымі незалежнымі дзяржавамі былога Саюза. Ажыццяўленнем праграмы займаюцца тры недзяржаўныя, некамерцыйныя амерыканскія арганізацыі, якія адказваюць за прыём дакументаў, конкурсны адбор і вырашэнне іншых пытанняў, што паўстаюць перад абранымі шчаслівчыкамі да таго, як яны трапяць непасрэдна на месца. Адна з гэтых арганізацый — Амерыканскі Савет выкладчыкаў рускай мовы і літаратуры — цяпер мае сваё прадстаўніцтва і на Беларусі. Узначальвае яго Майкл Трэйнар (дарэчы, зусім малады хлопец, з якім абавязкова знаёмяцца ўсе прэтэндэнты на асабістую сустрэчу з Амерыкай).

— Наогул, узровень падрыхтоўкі ў школьнікаў былога Саюза даволі высокі,— зазначае Майкл.— Акрамя англійскай мовы ні да якіх іншых школьных прадметаў ім рыхтавацца не трэба. Калі ж ёсць пэўныя цяжкасці з мовай — такія выпраўляюцца ў Амерыку на месяц раней, каб прайсці курс інтэнсіўнага навучання.

Ад Майкла я даведалася, што сёлетні конкурс быў адкрытым — у адрозненне ад папярэдняга. Гэта азначае, што ўдзел у ім маглі прыняць усе жадаючыя. У першы ж раз школы, куды прыязджаў Майкл з памочнікам, каб правесці тэсціраванне, былі рэкамендаваны ім Міністэрствам адукацыі. Затое сёлета (а цяпер і надалей) той, каго зацікавіла ідэя навучання ў Амерыцы, павінен быў папросту паведаміць пра гэта ў офіс Майкла — і пачынаць рыхтавацца да конкурсу.

Конкурс — мерапрыемства не вельмі складанае. Першыя два туры — высвятленне праз тэсты ўзроўню моўнай падрыхтоўкі. Плюс сачыненні — вядома, таксама на англійскай мове. Вартасць сачыненняў вызначаецца ў Кіеве, дзе не так даўно быў створаны спецыяльны цэнтр апрацоўкі даных. Наступны этап — асабістая сустрэча з Майклам, афіцыйна — субяседаванне. Потым анкеты і сачыненні адпраўляюцца ў Вашынгтон, дзе, ў рэшце рэшт, і прымаецца канчатковае рашэнне... Як бачыце, сістэма даволі строгая. Між іншым, здараліся выпадкі, калі некаторыя бацькі спрабавалі дамовіцца праз пэўныя грашовыя аргументы — не з самім Майклам, праўда, а з нашымі суайчыннікамі, ягонымі памочнікамі. Спробы засталіся безвыніковымі. Спосаб, выпрабаваны ў нас на працягу дзесяцігоддзяў, тут чамусьці не "прайшоў"...

Умовы наступнага конкурсу будуць аб'яўлены зусім хутка. Гэтакія ж іспыты мяркуецца правесці і для студэнтаў. Восенню адбудзецца першы тур. Ёсць думка распачаць падобныя абмены для беларускіх прадпрымальнікаў, банкіраў, менеджэраў — выпраўляць іх на своеасаблівую шасцітыднёвую стажыроўку... Тое, пра што некалі тайна марылі нашыя бацькі, сёння — самая сапраўдная рэчаіснасць: Амерыка робіцца ўсё менш загадкавай і ўсё больш сяброўскай.

АКТУАЛЬНАЕ ІНТЭРВ'Ю

# Ці доўга вёсцы чакаць даўгоў?

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).*

хваль інфляцыі, у сабе не нясуць. У прыватнасці, на сёння доўг калгасам і саўгасам складае 969,8 мільярда рублёў, а запазычанасць апошніх дзяржаўным, камерцыйным структурам 922 мільярды рублёў. У ліку іх 70 мільярдаў арганізацыям райаграпрамзабеспячэння і каля 41 мільярда за паліва камерцыйным структурам.

Увогуле, як бачна, усе ў даўгу як у шаўку. Але адным гэта зручна, можна жыць бескрэдытна, як тым жа гандлю, Белкаапсаюзу, прадпрыемствам перапрацоўчай прамысловасці, запазычанасць якіх на сёння гаспадаркам складае адпаведна 157,3, 142,2 і 432,8 мільярда рублёў. А калгасы, саўгасы, фермерскія гаспадаркі не маюць у выніку магчымасці своечасова набыць тэхніку, гербіцыды, сеялкі, веялкі, паліва, бо кошт іх расце не па днях, а па гадзінах.

**— Няўжо нельга спыніць рост цэн на тыя ж трактары, камбайны?**

— Калі кранацца гэтай тэмы, то ў рыначным свеце разлік вартасці любога тавару — ад сахі да аўтамабіля — пачынаецца з вызначэння кошту тоны збожжа і тоны нафты. Ад гэтых дзвюх базавых лічбаў пасля і "танцуюць". І не інакш. А ў нас гэтыя суадносіны "гуляюць" пакуль самі па сабе.

**— Мікалай Канстанцінавіч, з палівам справа праяснілася — патрэбны грошы і немалыя. Пытанне кампетэнцыі Вярхоўнага Савета, які займаецца крэдытна-фінансавай сістэмай. А вось ці адпавядае патрэбам гаспадарак іх машынна-трактарны парк?**

— У гэтай справе больш "мінусаў", чым "плюсаў". Калі раней былі доўгатэрміновыя крэдыты для набыцця тэхнікі, то цяпер іх не даюць. Машыны ж, як вядома, зношваюцца. Фактычна вось ужо тры гады гаспадаркі не купляюць збожжаўборачныя камбайны. Папершае, той жа "Дон-1500" каштуе сёння без усялякіх "накрутак" больш як адзін мільярд "зайчыкаў", а, па-другое, дзе ўзяць столькі грошай калгасу ці саўгасу, не кажучы ўжо пра фермера. Пры тым, на той жа Украіне "зайчыкаў" не прызнаюць. Давай даляры ці расійскія рублі. Праўда, трактароў "МТЗ" у мінулым годзе было закуплена восем тысяч штук, у той час як у тым жа 1989 годзе і крыху раней набывалі ўсяго па 4,5-5 тысяч адзінак.

Я ўжо казаў, што наша эканоміка — эканоміка парадоксаў? Гаспадаркі задушылі падаткамі, што сёння стала больш зручна займацца перапродажам, чым вырабляць, вырошчваць прадукцыю. Урад павінен сачыць за парытэтам цэнаў. Хіба не крыўдна таму ж вяскоўцу ўсведамляць, што бутэлька піва каштуе звыш дзвюх тысяч рублёў, а малака ўсяго 330. Ды і цяперашнія закупачныя цэны на прадукцыю калгасаў-саўгасаў хіба адпавядаюць нястрыманаму росту аптовых — на тэхніку? Той жа "Беларусь" сёння не кожнаму па кішэні. Дзе возьме фермер, напрыклад, 122 мільёны "зайчыкаў" ці 5800 даляраў? Якія ж у гэтым выпадку могуць быць прыярытэты вытворчасці сельгаспрадукцыі? Недасканаласць аплаты працы, аднолькавы падатак як з вытворцы, так і з таго, хто спекулюе, — гэтыя анамаліі ў многім адштурхнулі вяскоўцаў ад патрэб спажыўца.

А што тычыцца падрыхтаванасці машынна-трактарнага парка да ўборкі кармоў, то на сёння становішча ў рэспубліцы гэткае: па трактарах яно складае 92 працэнты, па аўтамашынах — 88 працэнтаў.

**— Уборка кармоў будзе весціся, як вядома, і ў раёнах з поўным фонам радыяцыі. У свой час для гэтых зон былі выраблены на тым жа Мінскім трактарным заводзе трактары з герметычнымі кабінамі. Як складваецца іх лёс?**

— Сапраўды, для раёнаў, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС, былі выдзелены сродкі з мэтай аховы здароўя механізатараў, накіроўваліся, у прыватнасці, спецыяльна выробленыя на Харкаўскім, Мінскім і Валгаградскім трактарных заводах трактары з герметычнымі кабінамі. Напачатку прадугледжвалася выкарыстоўваць іх у зонах са шчыльнасцю забруджанасці ад 15 кц/км.кв. і вышэй, а пачынаючы з 1990 года ад 1 да 15 кц/км.кв. і вышэй. Але сябе яны не апраўдалі на нашых палях. Папершае, у такіх кабінах немагчыма працаваць у спёку (і механізатары не вытрымлівалі, адкрывалі дзверцы), а, па-другое, пасля непрацяглай эксплуатацыі кабіна сама па сабе разгерметызоўвалася з-за дрыготкіх дарог, палёў. Прыйшлі да высновы, што трэба часцей мяняць у зонах не толькі кабіны, але і саму тэхніку.

**— Дарэчы, колькі спецтрактароў было пастаўлена нашай сельскай гаспадарцы?**

— У раёны бедства ў 1989 годзе было пастаўлена 619 МТЗ-80/82 і 1720 герметычных кабін, у 1990 адпаведна — 676 і 1703, у 1991 годзе — 120 і 28 герметычных кабін.

**— І, бадай, апошняе пытанне, Мікалай Канстанцінавіч. Дзе выйсце са становішча, якое склалася ў сельскай гаспадарцы рэспублікі ды і, наогул, у эканоміцы, калі вар'яцкі рост цэнаў на тавары і паслугі, пагоня за далярам, якая прыніжае годнасць народа, нацыі, засланілі клопаты пра хлеб надзённы?**

— Неабходна, на маю думку, змяніць акцэнты ў эканоміцы — ад расхлябанасці да высокай тэхналагічнай дысцыпліны, наладзіць нармальную вытворчасць ва ўсіх галінах, а каб прадукцыя мела рэальны кошт, выдзеліць крэдыты асноўным таваравытворцам. Толькі тады яны змогуць набыць сыравіну, матэрыялы, а працаўнікі сельскай гаспадаркі — трактары, машыны, камбайны і г.д. А галоўнае — наладзіць рынак збыту.

Канешне, немалаважнае значэнне для таваравытворцаў мае зарплата. Вось таму павінна быць пры Саўміне ці Вярхоўным Савеце служба, якая б аналізавала становішча спраў і ў парытэце цэн, і ў вытворчасці прадукцыі. Адным словам, неабходны меры па навядзенню дысцыпліны ад вытворцы да апарату кіравання. Пакуль што ў эканоміцы хаос. Да гэтай пары банкі не пракрэдытавалі патрэбы калгасаў, саўгасаў на перыяд уборкі кармоў, хоць у Савеце Міністраў гэтае пытанне разглядалася.

Адным словам, час аддаваць даўгі вёсцы.

**Гутарыў Валянцін БАРЫСЕВІЧ.**



ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

## Горкія лічбы

*За час грамадзянскай вайны ў Босніі загінуў кожны дзесяты жыхар гэтай рэспублікі.*

Самі баснійцы цяпер горка жартуюць, што ў іх краіне стала больш могілак, чым садоў.

## "Грынпіс" супраць французскага ўрада

*Французскі ўрад заявіў, што больш не дазволіць сваім рыбакам выкарыстоўваць сеткі для лоўлі тунца ў паўночна–ўсходняй частцы Атлантычнага акіяна.*

Раней Францыя заяўляла, што будзе працягваць выкарыстоўваць рыбалоўныя сеткі ў парушэнне ўсіх міжнародных норм. Цяперашняе рашэнне ўрада, хутчэй за ўсё, выклікана масавымі акцыямі пратэсту, арганізаванымі сусветным рухам "Грынпіс".

## Ірак заўважаны ў прымяненні хімічнай зброі

*Згодна з дакладам кангрэса ЗША, у час вайны ў Персідскім заліве Ірак прымяняў хімічную зброю.*

Салдаты, якія прымалі ўдзел у вайне, скардзяцца на болі ў суставах, выпадзенне валасоў, млоснасць і крывацёкі.

## Рэха выбуху...

*У амерыканскім судзе завяршыўся працэс па справе аб выбуху ў гандлёвым цэнтры Нью–Йорка.*

Абвінавачваемыя ў гэтым тэрарыстычным акце 4 ісламскія "фундаменталісты" прыгавораны да 240 гадоў турмы кожны. Яны таксама павінны выплаціць па 250 млн. даляраў сем'ям загінуўшых. Усяго тады загінула 10 і было паранена больш як тысяча чалавек.

## Дэманстрацыя ў Токіо

*15 жанчын з Паўднёвай Карэі, якіх у час вайны прымушалі працаваць у публічных дамах для японскіх салдат, правялі марш–пратэст у сталіцы Японіі.*

На сустрэчы з прадстаўнікамі японскага ўрада яны заявілі, што не пакінуць Японію, пакуль дзяржава афіцыйна не папросіць у іх прабачэння і не будзе выплачана грашовая кампенсацыя.

## Бактэрыі–людаеды: працяг будзе?

*Паводле паведамленняў міністэрства аховы здароўя Нідэрландаў, бактэрыя, якая "з'ядае" людзей, што нарабіла многа шуму ў Англіі, "з'ела" яшчэ 21 ахвяру ў Галандыі.*

У той жа час прадстаўнік міністэрства заявіў, што распаўсюджанне бактэрыі ў краіне ідзе марудна.

## "Метал" давёў...

*Ударнік папулярнай групы "Ганз'н'Роўзіз" Мат Сорум паўстане перад амерыканскім судом за фізічнае насілле ў адносінах да жонкі.*

Сорум здаўся паліцыі ў панядзелак пасля таго, як на мінулым тыдні быў падпісаны ордэр на яго арышт.

## Поп–фанатызм

*Фанатка Майкла Джэксана, якая пагражала бацьку хлопчыка, што абвінаваціў поп–зорку ў разбэшчванні малалетніх, атрымала 3 гады зняволення ўмоўна.*

Да гэтага выпадку 24-гадовая англічанка Дэніс Пфейфер аб'ездзіла са сваім кумірам увесь свет.

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

---

## ТЫДЗЕНЬ ПА ГАРАСКОПУ



**30 мая – 5 чэрвеня**

### БЛІЗНЯТЫ

На пачатку тыдня не ўвязвайцеся ні ў якія інтрыгі. Адкладзіце каханне на іншы час. Звярніце ўвагу на сваё здароўе.

У сераду вам прыйдзецца вырашаць сур'ёзную асабістую праблему, звязаную з грашыма. Пастарайцеся пазбегнуць канфлікту. Магчымы поспех у каханні.

З'явяцца перспектывы ў бізнесе ў суботу. Уважліва сачыце за навінамі.

### РАК

З аўторка пачнуцца перамены ў інтымным жыцці. Высветліце ўсе непаразуменні ў сям'і. Але не рызыкуйце нічым.

Не марнуйце час у пятніцу. Будзьце актыўнымі ў каханні.

Магчыма нейкае падарожжа ў выхадныя. Многім пашанцуе ў фінансавай сферы. Не злоўжывайце алкаголем.

### ЛЕЎ

У панядзелак верагодна перспектыва добрых заработкаў.

Жыццёвыя выпрабаванні вас чакаюць у сераду. Не перанапружвайце сваю нервовую сістэму.

У пятніцу становішча ў сферы бізнесу стабілізуецца.

Займіцеся гаспадарчымі справамі ў суботу. Увечары пастарайцеся адпачыць душой.

### ДЗЕВА

Не давярайце нікому сваіх інтымных адносін у панядзелак. Звярніце ўвагу на свой страўнік. Сур'ёзна абдумвайце свае паводзіны ва ўсім. На сардэчным фронце пераменны поспех.

У чацвер пазбягайце залішняй актыўнасці. Павысіцца ваш творчы патэнцыял.

Субота – спрыяльны час для забаў, паходаў. Паляпшэнне вашага фінансавага становішча. Але пастарайцеся не сварыцца з ахоўнікамі парадку.

### ШАЛІ

Наведайце сваіх сяброў і знаёмых у першыя дні тыдня. Магчыма цікавае знаёмства. Будзьце тактоўнымі ва ўзаемаадносінах з супрацоўнікамі. Рызыкуйце!

Ад серады многае будзе залежаць у каханні. Кантралюйце сітуацыю з грашыма.

У нядзелю пастарайцеся выехаць за горад для заспакаення нервовай сістэмы.

### СКАРПІЁН

Пазбягайце сварак з блізкімі ў панядзелак. Займіцеся вырашэннем матэрыяльных праблем. Магчымы мімалётныя захапленні. Але не губляйце галавы.

Не ўвязвайцеся ў рызыкоўныя прадпрыемствы ў сярэдзіне тыдня.

Сачыце за навінамі ў нядзелю. Магчымы грашовыя паступленні.

### СТРАЛЕЦ

Асцерагайцеся непрыемных выпадковасцей у сям'і і на працы на пачатку тыдня. Матэрыяльнае становішча няўстойлівае.

У сераду фартуна вам усміхнецца ў бізнесе. Але не прымайце паспешлівых рашэнняў. Беражыце сэрца ад хваляванняў.

Паклапаціцеся аб сваім здароўі ў суботу. Спрыяльны час для кахання.

### КАЗЯРОГ

Пастарайцеся не спрачацца з каханым у панядзелак. Будзьце асцярожнымі ў фінансавай сферы.

Устрымайцеся ад забаў і захапленняў у чацвер. Давярайце сваёй інтуіцыі.

У нядзелю магчымы непаразуменні ў каханні. Пазбягайце ўсялякіх сварак.

### ВАДАЛЕЙ

Стрымлівайце свае эмоцыі ў аўторак. Магчыма дрэннае самаадчуванне. Будзьце настойлівымі ва ўсім.

Атрымаеце весткі здалёк у чацвер. Звярніцеся па дапамогу да сваіх сяброў. Сардэчныя справы нармалізуюцца.

Справы, за якія вы возьмецеся ў суботу, завершацца паспяхова. Верагодна вырашэнне сур'ёзнай сітуацыі ў асабістым жыцці.

### РЫБЫ

Не злоўжывайце ежай і алкаголем у першыя дні тыдня. Палепшыцца становішча на працы і ў інтымным жыцці. Не лепшы час для актыўных дзеянняў у фінансавай сферы. Перачакайце.

Магчымы мімалётныя захапленні ў пятніцу. Не слухайце ніякіх плётак.

У нядзелю звярніце ўвагу на сваё здароўе. Наведайце царкву.

### АВЕН

Не плануйце рашучых крокаў у фінансавым плане ў панядзелак. Пазбягайце канфліктаў у сям'і.

Займіцеся вырашэннем матэрыяльных спраў у чацвер і пятніцу.

Пастарайцеся не канфліктаваць з супрацоўнікамі і роднымі ў суботу. Паклапаціцеся аб сваім страўніку.

### ЦЯЛЕЦ

Не прымайце паспешлівых рашэнняў у аўторак. Правярайце ўсялякую паступаючую інфармацыю.

Спрыяльны час для заняткаў спортам у чацвер. Магчымы матэрыяльны прыбытак.

Выхадныя правядзіце на прыродзе.

---

АДАМ І ЕВА

# Каханне раённага маштабу

□ Наталля СТРАЛКОВА, "ЧЗ"

*У маленькім раённым цэнтры цяжка што–небудзь утаіць ад людскіх вачэй. Вось і Ірына, калі ідзе па вуліцы ці стаіць у прадмагаўскай чарзе, часта ловіць на сабе зацікаўленыя позіркі і чуе шапаток за спіной. Яна даўно перастала звяртаць увагу на перасуды, плёткі і нават званкі заўзятых прыхільнікаў маральнасці. Яе папярэджвалі "па–добраму", раілі весці сябе больш сціпла (усё ж — замужняя), пагражалі абліць дзверы бензінам і падпаліць... Ірыну гэта мала турбавала. У рэшце рэшт, напрыканцы трэцяга дзесятка, яна сустрэла чалавека, які за адзін вечар перакрэсліў усё мінулае жыццё.*

Яе першае замужжа аказалася няўдалым — цяпер можна было смела ў гэтым прызнацца. Сяргей не піў, не гуляў, як большасць іх знаёмых, з работы ехаў дадому і два разы на месяц акуратна аддаваў Ірыне грошы. Сяброўкі ёй зайздросцілі: ідэальны муж! Высокі, прыгожы, сур'ёзны — словам, станоўчы з усіх бакоў. А ёй ўжо праз паўгода стала з ім сумна. Муж цураўся незнаёмых людзей — нават тых самых сяброўак, абыходзіў бокам шумныя кампаніі, не любіў гасцей — зачыняўся ад іх у асобным пакоі. Многія жанчыны, калі б папаўся ім Сяргей, палічылі б яго проста знаходкай. Толькі не Ірына. Яна не пераносіла цішыні ў доме. І любіла ўсё тое, што прымушала мужа незадаволена моршчыць лоб: нечаканыя прыходы гасцей, шумныя выезды "на прыроду", гучную музыку... Калі яна вярталася дадому, Сяргей адразу клаўся спаць, дэманстратыўна павярнуўшыся на другі бок. Сон ці проста адпачынак увогуле былі яго любімымі заняткамі. Павячэраў — і на канапу з газетамі ці дэтэктывам. І хоць ты з пятага паверха скачы — не зверне ўвагі.

...Новы дырэктар іх Дома культуры быў зусім не такі — гэта Ірына адчула адразу.

Ужо па аднаму таму, як ён дасціпна жартаваў і ўзнімаў настрой падначаленым, збіраючы іх па панядзелках на ранішнюю планёрку, Ірына выдзеліла яго з шэрагу звыклых зануд неазначанага ўзросту, якія спрабавалі навязаць ёй сябе, зачыніўшыся "выпадкова" ў метадычным кабінеце або прыціскаючы мімаходам на лесвічным пралёце. Віктар падаўся ёй энергічным, вясёлым і вельмі сваім. Ён усміхаўся ўсім, у тым ліку і ёй. Пасля першага знаёмства з імі папрасіў задаваць пытанні. Ірына, у якой і пры звычайных абставінах язычок за вуснамі рэдка трымаўся, тут увогуле завялася. Па яе просьбе "шэф" вельмі старанна і падрабязна расказаў пра новыя формы работы, пра камерцыйныя ўтварэнні пры ДК, пра аклады і прэміі, дайшоў ледзь ці не да канцэпцыі асветніцкай работы ўвогуле... "Усё? Вы задаволены?" — звярнуўся ён асабіста да Ірыны.

"Амаль што... Але вы яшчэ нічога не сказалі пра сваё сямейнае становішча". Тады ўсе засмяяліся, ён — таксама. Але адказаў. Жанаты. Двое дзяцей. Хлопчыкі дзесяці і сямі гадоў. Ірыну гэта чамусьці непрыемна ўразіла, але не напалохала. Яна падумала, што барацьба за яго будзе доўгай. Падумала спакойна, упэўненая, што вынік гэтай барацьбы залежыць толькі ад яе.

У класе Іра была самай прыгожай дзяўчынкай, яе вылучалі не толькі аднагодкі, а нават іх бацькі і настаўнікі. У інстытуце паўтарылася тая ж гісторыя. Для сустрэч з замежнымі гасцямі вылучалі яе, а нe каго-небудзь іншага. І размеркаванне было б цудоўным, калі б на апошнім курсе не зблыталася Ірына з адным жанатым выкладчыкам, які дзеля яе быў гатовы кінуць і жонку, і месца на кафедры. Выкладчыку прапанавалі іншае месца работы, Ірыну паспяхова сплавілі ў "правінцыю". Дзякуй Богу, у родную. Туды, адкуль яна ўсёй душой імкнулася вырвацца і куды ўжо ніколі не збіралася вяртацца. Яна фізічна не ўспрымала гэта інертнае асяроддзе, якое, здавалася, засынала раней, чым паспявала прачнуцца... Прыйшлося звыкнуцца і зміріцца, "патрапіць" у рытм. Потым з'явіўся Сяргей — чысценькі, сур'ёзны, з вышэйшай адукацыяй. "Удваіх будзе лягчэй", — падумала Ірына, згаджаючыся на яго прапанову пажаніцца. І памылілася. Па сутнасці, яны былі не тымі супрацьлегла зараджанымі часціцамі, якія прыцягваюцца, а зусім чужымі і далёкімі. Дарэчы, трэба аддаць ёй належнае: за ўсё, што адбылося, яна лічыць адказнай толькі сябе. Не шукае вінаватых і не "каціць бочкі" на мужа. "Так атрымалася" — і ўсё.

Невядомае раней пачуццё ўзнікла адразу, і яна зразумела, што не зможа яму супраціўляцца. Спачатку Віктар зрэдку падвозіў яе дадому на машыне, і яны абодва рабілі выгляд, быццам нічога асаблівага не адбываецца — ну, падумаеш, "падкінуў" раз-другі сваю падначаленую, каб абцасы не збівала і сумкі цяжкія ў руках не цягнула. Гэта ж самае яна гаварыла мужу, а ён — жонцы, калі пасля чарговай паездкі нейкі пільны добразычліўца спяшаўся паведаміць прыемную навіну іх "паловам"...

— Ты не ведаеш, што такое — жыць у райцэнтры, — сказала яна мне.

— Але ж я таксама не ўсё жыццё пражыла ў сталіцы.

— Ну тады ты не ведаеш, што такое жыць у райцэнтры і кахаць чужога мужа. Кроку не зробіш, каб пра гэта не стала зараз жа вядома усім зацікаўленым асобам. Дзіўныя людзі — здавалася б, ну каму якая справа, займайцеся вы сваімі праблемамі... Не. Думаеш, яны маральнасць нашу ахоўваюць? Ага, як жа. Мы для іх — своеасаблівая падзея раённага маштабу, заезджы цырк, прычына, каб пapляткарыць, прынізіць, злосць сваю спагнаць. У іх — шэрыя будні, работа ды канапа, а ў нас — каханне! Ды не па кустах, а навідавоку амаль што. Шакіруе іх, што я дадому з кветкамі прыходжу...

Пакуль іх раман толькі завязваўся супрацоўніцы нават падбівалі Ірыну, пад'юджвалі: маўляў, смялей трэба дзейнічаць, а то якая іншая "падчэпіць". Потым прыціхлі.

А жонцы сваёй Віктар амаль адразу ва ўсім прызнаўся. Сказаў: "Прабач, я цябе не кахаю. Адпусці". А яна ў адказ: "Мне тваё каханне непатрэбна. Нікуды я цябе не адпушчу. А калі сам пойдзеш — рукі на сябе накладу, век рады не будзеш". Пасля таго два разы яе літаральна за рукі сцягвалі з праезнай часткі — пагражала кінуцца пад машыну, калі муж не перастане хадзіць да палюбоўніцы. У вечары ў Ірынай кватэры раздаваўся тэлефонны званок, і яна ўжо ведала, што калі падыме трубку, на тым канцы провада зноў заплачуць дзеці: аддай нам нашага тату! А Віктара ж і блізка ў яе не было. Ён часцей заставаўся начаваць у сваіх бацькоў, асабліва пасля таго, як у жонкі пачаліся істэрыкі. Аднойчы яна наразала хлеб і раптам прыставіла тонкае доўгае лязо да яго грудзей: "Я цябе лепш заб'ю, чым аддам гэтай..!" Тады ўдалося яе супакоіць, усё скончылася ціхім плачам і, здавалася б, прымірэннем. Праўда, абодва цудоўна разумелі — часовым.

У наступны раз яна прыйшла да Ірынінага дома і доўга грукала ў дзверы. Спачатку Іра не на жарт спалохалася і вырашыла не адгукацца. Раз'юшаная госця ўспрыняла апошняе як яўны доказ таго, што ад яе нешта (дакладней, некага) скрываюць. Узняла на ногі ўвесь пад'езд, клікала па дапамогу суседзяў, крычала і пагражала прывесці міліцыю... Ірына набралася мужнасці і адчыніла. Законная жонка пранеслася, як ураган, па ўсіх пакоях, заглянула ў шафы і пад канапы, а, не знайшоўшы нікога, толькі і змагла, што прыгразіць: я яшчэ вярнуся, толькі ўжо з салянай кіслатой...



Пры выхадзе з пад'езда Ірына цяпер заўсёды некалькі разоў аглядвалася, спяшалася прыладзіцца да якога-небудзь выпадковага прахожага, а гуляць без важнай справы, як раней, і ўвогуле перастала. Самае агіднае заключалася ў тым, што нехта кожны дзень званіў на работу яе бацькам і паведамляў, што іх дачка — шлюха (увогуле, гэта было самае мяккае слова з усяго набору "эпітэтаў", якімі шчодра ўзнагароджвалі Ірыну знаёмыя і родныя пакрыўджанай жонкі)...

На яе месцы не кожны вытрымаў бы. Ды і сама яна, як мне здалося, цярпела гэта ўжо з вялікай доляй "спартыўнага" інтарэсу: хацелася даказаць ім усім сваю перавагу. "Светлае пачуццё" не знікла, але нібыта паблякла, стаміўшыся ад бясконцай барацьбы за права на існаванне... Віктар усё цягнуў і цягнуў з канчатковым рашэннем. Ірына чакала і чакала. Жонка таксама не страчвала надзеі. Яна змяніла тактыку, паставіўшы новыя ўмовы: спачатку забяспечыць дзецям бязбеднае існаванне ў хуткім напаўсіроцкім будучым, а потым ісці на ўсе чатыры бакі.

Віктар быў гатовы на любы кампраміс, абы не пакутавалі хлопчыкі. Ён уладкаваўся на іншую — больш даходную — працу, у выніку чаго яны з Ірынай пачалі бачыцца яшчэ радзей...

Між тым, мінулі тры гады. Іра паспела развесціся з мужам, "знішчыўшы", такім чынам, усе перашкоды на сваім шляху да шчасця. Ва ўсякім разе цяпер не трэба было ні перад кім апраўдвацца. Жыццё ператварылася ў суцэльнае чаканне. У яе пачалі ўжо з'яўляцца новыя паклоннікі, і яна, стомленая барацьбой, не адштурхоўвала іх ад сябе, хоць і не зближалася вельмі. Так, адна-дзве ночы... Потым ва ўсім прызнавалася Віктару — магчыма, ад адчаю, каб раззлаваць, падштурхнуць да канчатковага разрыву з сям'ёй. А ён нават не крыўдзіўся — як заўсёды, гладзіў па валасах, цалаваў вочы, рукі. І доўга-доўга моўчкі курыў на балконе, не баючыся суседзяў. Ірына сядзела на канапе, глядзела на яго праз шкло і гадала: застанецца начаваць ці не? Калі застанецца, значыць, усё будзе добра...

Віктар вяртаўся ў пакой, моцна абдымаў яе і развітваўся. Ніяк не мог адступіць ад свайго правіла: пакуль у мужчыны ёсць жонка, ён павінен начаваць дома...

Я не ведаю, чым скончыцца гэта гісторыя, хоць недзе ў глыбіні душы — здагадваюся. Зразумела, што аднолькава добра ўсім траім быць ужо не можа. І яшчэ. Бываюць цяжкасці, сутыкнуўшыся з якімі, мужчына і жанчына яшчэ больш моцна і пяшчотна прывязваюцца адзін да аднаго. Скажам, нейкія надзвычайныя абставіны, жорсткія ўмовы жыцця, доўгія разлукі і да т.п. Але ж бываюць і выпрабаванні, прайшоўшы праз якія, некалі чыстыя адносіны аказваюцца нібыта вывалянымі ў брудзе, растаптанымі, апляванымі. Іх, калі вельмі-вельмі пастарацца, можна аднавіць, удыхнуць у іх новую сілу. Толькі ў дадзенай гісторыі я не бачу чалавека, які б жадаў гэта зрабіць.

---

АДПАЧНІ!

# Культура — галіна нематэрыяльная?..

□ Наталля ПЛЫТКЕВІЧ, "ЧЗ"

Ізноў красуе квеценню Палессе, якія б сацыяльныя катаклізмы ні скаланалі наша грамадства, якія б змрочныя прагнозы ні выказваліся, але жыццё ёсць жыццё. Як і спрадвеку, буяюць сады, іх водар кружыць галаву, п'яніць сэрца і абуджае пачуцці. Навокал тая самая прыгажосць, якая, магчыма, і "выратуе свет". Углядаючыся ў гэтае хараство, у буянне садоў, міжволі нагадваеш тыя радкі, якімі Уладзімір Караткевіч апісвае цвіценне грушы ў "Каласах пад сярпом тваім". Памятаеце? "Усе галіны яе, усе вялікія расохі, да апошняга пруціка, былі ўсыпаны бурным бела-ружовым цветам. Яна кіпела, млела і раскашавалася ў пчаліным звоне, цягнула да сонца сталыя лапы і распасцірала ў яго ззянні маленькія, кволыя пальцы новых парасткаў. І была яна такая магутная і свежая, так утрапёна спрачаліся ў яе ружовым раі пчолы, што, здавалася, не будзе ёй зводу і не будзе канца".

Сучасныя мелодыі льюцца над спрадвечнай квеценню садоў — у Навасёлкаўскім Доме культуры дыскатэка. Моладзь весяліцца, мільгаціць святламузыка. Хлопцы заляцаюцца да пахарашэлых дзяўчат — словам, усё, як заўсёды. Той, хто асабіста знаёмы з вясковымі танцамі, пэўна, скаланецца ў душы, згадваючы страшныя бойкі, якімі звычайна заканчваюцца падобныя мерапрыемствы. "Дзякуй Богу, у нас такое амаль не здараецца,— цьфу, цьфу, каб не сурочыць,— гаворыць Ала Каліна, дырэктар Дома культуры вёскі Навасёлкі Петрыкаўскага раёна.— Лепшым пакараннем парушальнікаў парадку я лічу пакаранне матэрыяльнае. Спіс тых, хто паводзіць сябе не лепшым чынам, аддаю ўчастковаму, а той спаганяе з парушальнікаў штраф. І — дзейнічае! Няма чаго далёка хадзіць па прыклады: у суседніх Капаткевічах кожная дыскатэка заканчваецца бойкай — святло выключаюць і "месяцца", нават дзяўчаты. Толькі раз быў у нас прыкры выпадак. Вырашылі ў будні дзень "агеньчык" арганізаваць (а дыскатэкі цяпер праводзім толькі ў выхадныя), дык юнакі (можа, нават школьнікі) нам дзверы выбілі — як гэта "свята жыцця" ды без іх удзелу... А ўвогуле, скардзіцца грэх. У нас нават у самадзейнасці шмат хто ўдзельнічае, някепскі і фальклорны, і танцавальны калектывы, толькі, шкада, у апошні хлопцаў не зацягнуць. Раней па раёне шмат ездзілі, у аглядах удзельнічалі. Наш сямейны ансамбль: я, мой муж Вова, маці Вольга Іванаўна і бацька Міхаіл Фаміч — гэтай восенню выступалі ў Капаткевічах, так шчыра спявалі, і "сарвалі", дарэчы, шмат авацый.

Наш прагматычны час, адзначыла Ала, узводзіць шмат перашкод у рабоце той жа самадзейнасці: "Касцюмы шыем самі, немаведама з чаго. А дзяўчаты прыходзяць, напрыклад, у танцавальны калектыў і, перш-наперш, пытаюцца: а ў чым выступаць будзем? І я не магу ім нічога паабяцаць. Або возьмем тыя ж агляды самадзейнасці. Зніклі не толькі матэрыяльныя стымулы (ні прэмій, ні падарункаў), але і маральныя — нават месцаў не прысуджаюць. Ды што казаць — транспарт "выбіць" на агляд і то праблема з праблем: эканомяць паліва."

Дом культуры сёння апынуўся пры двух "гаспадарах": па-першае, ён на базе саўгаса, а, па-другое, штатныя супрацоўнікі падпарадкоўваюцца раённаму аддзелу культуры. Цалкам забраць ДК аддзелу культуры нявыгадна, бо саўгас плаціць і за святло, і за ацяпленне, апаратуру, дарэчы, добрую, некалькі гадоў таму прыдбаў. Але планы работы і штатны расклад зацвярджае аддзел культуры... Такая вось блытаніна.

"На дырэктара саўгаса, Барыса Сямёнавіча Рунова, не буду скардзіцца, дапамагае чым можа, — прызнае Ала і засмучана працягвае:— Што ж ён можа зрабіць, калі сам вымушаны лічыць кожную капейчыну. А тут хоць плач — рамы гніюць, столь абвальваецца, пабелка абсыпаецца, а на рамонт няма грошай. І хадзі не хадзі — ад загадчыка аддзела культуры да дырэктара саўгаса — нічога не дапаможа!"

Вясковыя ўстановы культуры, дарэчы, ніколі не былі распешчаны ў нас празмерным багаццем матэрыяльных сродкаў. Заўсёды гаротныя, яны пакутавалі ад сумна вядомага "рэшткавага прынцыпу фінансавання". Што ж тут казаць пра дзень сённяшні, калі на ўліку кожны "зайчык". Культура — гэта галіна нематэрыяльная, і ці патрэбна яна на вёсцы — вырашаюць пасля вырашэння больш важных, на першы погляд, пытанняў. Магчыма, яно і так. Магчыма, вёска павінна расціць хлеб і бульбу, гадаваць свіней і кароў ды клапаціцца аб тым, каб на нашым стале былі малако, агародніна і мяса. Ды толькі ці будзе каму там займацца гэтым, калі мы пазбавім вёску законнага права на адпачынак?!

**Петрыкаўскі раён.**

---

СВЕЦКІ САЛОН

# Каралева, што правіць нядоўга

Што такое гарадская вясна? Размовы жвавых ручаёў, музыка птушыных спеваў, водар зямельнай свежасці, лёгкія подыхі ласкавага ветру і нараджэнне буйнога зяленіва — гэта не гарадская вясна. Прыслухайцеся... Чуеце? Адчуваеце?

Цокат абцасікаў і хваляванне паветра, узрушанага сардэчнымі перастукваннямі... Гэта і ёсць гарадская вясна. А ўвогуле — ці не ўсё роўна, правінцыяльная яна альбо сталічная?

З надыходам вясны многія дзяўчаты, прыдзірліва аглядаючы сябе ў люстэрку, як ніколі бязлітасна канстатуюць:"Я — непрыгожая..." Упэўніўшыся ў сваім няшчасці і шукаючы паратунку, яны пачынаюць пісаць у якую-небудзь маладзёжную радыёперадачу ці газету пісьмы з просьбай дапамагчы ці хаця б супакоіць.

Але на стадыі пошукаў кахання ні слабую, ні моцную паловы чалавецтва нельга пераканаць у тым, што прыгажосць твару і фігуры менш важныя, чым прывабнасць душы і сэрца. Кожны падлетак занадта добра ведае пра існаванне інтэрнацыянальнага прынцыпу: "прыгажосць выратуе свет". Пры гэтым большасць схільная думаць, што размова ідзе якраз пра прыгажосць знешнюю, фізічную. Якім бы глыбокім ні было разуменне духоўнай прывабнасці як асновы і жыцця наогул, кожны малады чалавек імкнецца ўнесці асабісты "ўклад" у выратаванне свету.

Можна паспрачацца наконт таго, якая канкрэтна прыгажосць дапаможа нашай планеце, аднак я ўпэўнена: адсутнасць у вас прыгожага тварыка яе ніякім чынам не загубіць. Ненадакучліва ўсплывае пытанне: ці варты факт вашага непадабенства на суперзорку штодзённых слёзных кашмараў? Калі ўдумацца, дык асабіста вам ёсць чаму іншы раз і парадавацца. Вы ніколі не будзеце "прыгожай лялькай" у чужых руках, у вас значна менш шанцаў быць згвалтаванай ці падманутай легкадумным паклоннікам, падкім на знешні бляск, у рэшце рэшт, сустрэўшы аднойчы старасць, вам не будзе так крыўдна развітвацца з не вельмі "бурным" мінулым. А ўсё тое, што прырода падарыла вам, заўсёды будзе з вамі. Знешняй прыгажосці, як вядома, з цягам часу ўласціва знікаць. Для некаторых адна думка аб магчымасці такой страты выклікае нясцерпныя перажыванні. А вы — па-за межамі падобных стрэсаў! Акрамя таго, каб канчаткова вас супакоіць, дадам, што да 20 гадоў чалавек мае твар, які яму падарыла прырода, а пасля — які ён "зрабіў" сабе сам.

Знешняя прыгажосць заўсёды дыктуе чалавеку свае патрабаванні да яго духоўнай сферы. Вы падрыхтаваныя да гэтага? Салодкая прывабнасць цела будзе выйграваць толькі ў саюзе з моцным "гаркавата-саленаватым" характарам, светлымі памкненнямі і шчырасцю душы. Нават сусветныя класікі ў пераважаючай большасці не імкнуліся дабівацца народнай любові для сваіх гераінь, малюючы з іх нябесных прыгажунь. Памятаеце, як пачынаецца раман Маргарэт Мітчэл "Унесеныя ветрам"? "Скарлет О'Хара не была прыгажуняй, але мужчыны наўрад ці гэта разумелі".

"Прыгажосць — гэта каралева, якая правіць вельмі нядоўга",— гаварыў Сакрат. А што ж кіруе намі ўвесь астатні час? Адкажыце самі.

**Святлана БАРЫСЕНКА.**

---

# Крыжаслоў



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Насілле. 4. Вёска ў Докшыцкім раёне. 8. Прадмет або з'ява прыроды, якім пакланяўся старажытны чалавек. 9. Начніца з сямейства матылькоў. 11. Від графікі. 12. Свята земляробчага календара. 13. Струнны ўдарны клавішны музычны інструмент. 14. Невысокая сценка над карнізам будынка. 16. Пасудзіна для зачэрпвання вады, квасу. 17. Мачанне для бліноў. 20. Род травяністых раслін сямейства складанацветных. 21. Каштоўная папера. 22. Пустацелыя вырабы. 23. Маладая трава. 26. Род шматгадовых травяністых раслін сямейства архідных. 27. Папрок.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Старажытныя курганы. 2. Народная гульня. 3. Сродак барацьбы з міннымі загародамі. 4. Мера даўжыні на Беларусі да 1918 года. 5. Аздоба пераплёту Евангелля. 6. Нядоімкі беларускіх сялян у XVI—XVII стст. 7. Адміністрацыйна-гаспадарчая адзінка ў Вялікім княстве Літоўскім. 9. Цынкавая руда. 10. Словы, якія аднолькава пішуцца, але маюць рознае значэнне. 12. Старажытная цяглавая прылада для рыхлення глебы на лядах. 15. Вольны селянін у Вялікім княстве Літоўскім. 17. Спявак, заслужаны артыст Беларусі. 18. Адно з жывёлагадоўчых плямён, якія пасяліліся на тэрыторыі Беларусі ў бронзавым веку. 19. Падбярозавік. 24. Павышанае месца з багатымі глебамі на балоцістай або нізіннай мясцовасці. 25. Птушка атрада вераб'іных.

**Даслаў Андрэй ЛАСТОЎСКІ.**
**Пастаўскі раён.**

### Адказы на крыжаслоў, змешчаны ў № 54

ПА ГАРЫЗАНТАЛІ: 4. Эквілібрыстыка. 8. Пара. 9.Саўгас. 11. Аксакал. 12. Водар. 13. Прорва. 16. Грыб. 18. Рука. 19. Міліцыя. 20. Труба. 22. Блін.23. Цана. 24. Амёба.

ПА ВЕРТЫКАЛІ: 1. Піла. 2. Рычаг. 3. Вароты. 5. Каўбой. 6. Бондар. 7. Сук. 8. Плагіят. 10. Сварка. 11. Аргумент. 14. Вуліца. 15. Пуціна. 17. Баабаб. 21. Ром.

